


# Весткі й Паведамленьні

інфармацыйны бюлетэнь Згуртаваньня "ПАГОНЯ"

Viestki j Paviedamleńni

Электронны адрас: viestki@mail.com
P. O. Box 3225, Farmingdale, NY 11735

№ 8 (642)
Жнівень 2019 г.


# Марш Паняволеных Народаў і ліпеньскі сход Згуртаваньня "Пагоня"

У нядзелю, 14-га ліпеня 2019 году на Мангэтане ў Нью-Ёрку адбыўся Марш Паняволеных Народаў. Гэты Марш адкрывае Тыдзень Паняволеных Народаў – шэраг мерапрыемстваў, якія прысьвечаныя клопату пра становішча народаў, што працягваюць знаходзіцца пад прыгнётам камуністычных, посткамуністычных ды кожных іншых тыраніяў і дыктатураў.

60 год таму, у 1959 годзе, Тыдзень Паняволеных Народаў быў замацаваны адмысловым урадавым законам – загадам прэзыдэнта Дўайта Айзэнгаўэра, які пазьней быў зацьверджаны Кангрэсам ЗША. Тыдзень Паняволеных Народаў стаў пляцоўкаю і нагодаю для дэманстрацыяў пратэсту супраць савецкага камуністычнага імпэрыялізму. Эмігранцкія арганізацыі з Усходняй Эўропы й краінаў Азіі заснавалі Камітэт Паняволеных Народаў, які вёў і каардынаваў ня толькі імрэзы Тыдня Паняволеных Народаў, але і ўсю працу, скіраваную на дапамогу паняволеным народам. На працягу ўсіх тых гадоў камуністычнага панаваньня ў Савецкім Саюзе і Ўсходняй Эўропе і да 1991 году прадстаўнікі эміграцыйных арганізацыяў народаў, якія былі паняволеныя савецкім камунізмам – чэхаў, украінцаў, палякаў, эстонцаў, летувісаў, казакоў, мадзяраў, славакаў, баўгараў, харватаў, латышоў ды іншых – ладзілі сумесныя мітынгі пад савецкімі дыпляматычнымі прадстаўніцтвамі, рабілі пікеты, распаўсюджвалі публікацыі, працавалі з сэнатарамі й кангрэсмэнамі, з прэзыдэнцкімі адміністрацыямі.

Сярод заснавальнікаў Камітэту былі таксама беларускія грамадзкія арганізацыі ў Амэрыцы. Пад кіраўніцтвам Камітэту Паняволеных Народаў на працягу дзясяткаў гадоў на кожны трэці тыдзень ліпеня Нью-Ёрк рабіўся трыбунаю масавых дэманстрацыяў і публічных акцыяў прадстаўнікоў усіх краінаў Усходняй Эўропы і Азіі, якія падмяў пад сябе маскоўскі бальшавізм.

Выбітным мерапрыемствам Тыдня была дэманстрацыя Паняволеных Наро-

*заканчэньне на бачыне 2*



## Марш Паняволеных Народаў і сход Згуртаваньня "Пагоня"

*заканчэньне з бачыны 1*

даў каля Статуі Свабоды на 200-годзьдзе ЗША. У 1988 годзе ў падзеях Тыдня ўзяў удзел прэзыдэнт Рональд Рэйган, які ў сваёй прамове ў прыватнасьці сказаў: "Сябры, паверце – Амэрыка ніколі не забудзецца на пакуты паняволеных народаў па ўсім сьвеце! Мы ніколі не перастанем казаць праўду. Вашае змаганьне ёсьць і нашым змаганьнем. Вашая мара ёсьць і нашай марай. І аднойчы вы пераможаце, аднаго дня вы зробіцеся вольныя!"

Штогод беларускія арганізацыі бралі актыўны ўдзел у імпрэзах Тыдня Паняволеных Народаў, і асабліва вылучалася Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне, але апошнім часам удзел у імпрэзе бяруць амаль выключна сябры Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня "Пагоня". Нажаль, адсутнасьць салідарнасьці народаў, хай ужо больш не паняволеных, і заняпад каардынацыйнай працы Камітэту Паняволеных Народаў, і гэткая раздрабнёнасьць па "нацыянальных хатах з краю" толькі дапамагае дыктатуры Пуціна ды іншым таталітарным дыктатурам.

Напачатку ўдзельнікі імрэзы сабраліся каля гатэлю "Пляза" пры 59-й вуліцы і 5-й авэню. Затым яны калёнаю пайшлі да сабору сьв. Патрыка пры 50-й вуліцы, дзе адбылося асьвячэньне сьцягоў ды імша за Паняволеныя Народы й вызваленьне іх ад тыраніі. Сьцягі высьвячаў пробашч сабору мансыньёр Робэрт Рытчы, які таксама прэзэнтаваў прадстаўнікоў Камітэту Паняволеных







Народаў і ўзгадаў паняволеныя народы ў сваёй казані і падчас літургіі.

Потым перад катэдраю на прыступках адбылося фатаграфаваньне. Пасьля імшы ўдзельнікі імпрэзы прайшлі Маршам па 5-й авэню і 59-й вуліцы да Калюмбус-Сыркль. Падчас шэсьця гучэлі лёзунгі: "Жыве Беларусь!", "Беларусь – так! Лукашэнка – не!", "Свабоду ўсім паняволеным Народам!", "Свабоду Беларусі!", "Свабода ня ёсьць бясплатнай!" Скрозь на маршы дамінавалі беларускія нацыянальныя бел-чырвона-белыя сьцягі, маршыруючыя несьлі транспарант Камітэту Паняволеных Народаў, плякаты "Спыніць рэпрэсіі ў Беларусі", "Пуцін: прэч рукі ад Беларусі!", "Рускі мір – гэта вайна". Затым у Цэнтральным парку каля Мэйн-Манумэнту адбылося афіцыйнае адкрыцьцё Тыдня, якое адкрыў уступным словам сп. Яан Куум, старшыня Камітэту Паняволеных Народаў, прадстаўнік амэрыканска-эстонскай грамады. Была зачытаная праклямацыі ад прэзыдэнта ЗША, губэрнатара штату Нью-Ёрк і кіраўніцтва Камітэту Паняволеных Народаў.

Ад беларускай грамады выступіў старшыня Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня "Пагоня" сп. Віталь Зайка, які прысьвяціў галоўную ўвагу свайго выступу ўдзелу моладзі ў змаганьні за свабоду й дэмакратыю ў Беларусі, а таксама сьцьвердзіў, што змаганьне за свабоду – гэта тэст на салідарнасьць, магчымасьць знаходзіць кампрамісы, свабода ня ёсьць бясплатная, за яе плоцяць крывёю.

Выступілі таксама прадстаўнікі Камітэту ад Эстоніі, ад Паўночнага ўсходу ЗША. Была прынятая рэзалюцыя, у якой урад ЗША заклікаецца да актыўнейшага ўдзелу ў дапамозе Паняволеным Народам, асуджаецца расейскі імпэрыялізм і посткамуністычныя тыраніі ў сьвеце – як у Беларусі, дзе рэжым Лукашэнкі застаецца выспаю несвабоды й рэпрэсіяў на эўрапейскім кантынэньце.

Пасьля ў скарочаным фармаце прайшоў ліпеньскі сход "Пагоні", на ім вырашаліся тэхнічныя пытаньні, прагучэлі аб'явы. Жнівеньскі сход пройдзе 10-га жніўня ў Доме Маракоў і на ім заплянаваная прэзэнтацыя прадстаўнікоў кампаніі, што займаецца падрыхтоўкаю спэцыялістаў інфармацыйных тэхналёгіяў.

***Віталь ЗАЙКА***

*Здымкі аўтара*



# Агляд культу левакоў і іхняй рэлігіі

Сярод маладога пакаленьня існуе даволі распаўсюджанае, але памылковае, перакананьне, што падзел грамадзтва паводле палітычных поглядаў на правых і левых несапраўдны, што гэта нейкая выдумка. Гэта не зусім так. Гэтае меркаваньне праўдзівае, толькі калі мы гаворым пра палітыку (ці геапалітыку) і кляс эліты, ці як іх яшчэ называюць глябалістаў. Яны сапраўды ня маюць ні левай, ні правай палітычнай арыентацыі. Іх не хвалююць ні дэмакраты, ні рэспубліканцы, ні ляяльнасьць да выбранай імі сёньня палітычнай партыі. Яны застаюцца вернымі толькі свайму пляну і выкарыстоўваюць абодвыя бакі для ягонага дасягненьня. А звычайныя людзі па сваіх поглядах дзеляцца на некалькі асноўных ідэалёгіяў.

На левым баку гэтага спэктару знаходзяцца калектывісты і сацыялісты, якія вераць, што грамада (ці група) нашмат важнейшыя, чым асоба, і што дзеяньні асобы трэба пільна адсочваць і накіроўваць, каб прадухіліць іх негатыўны эфэкт на грамаду.

На правым баку мы знаходзім індывідуалістаў, незалежнікаў і сапраўдных кансэрватараў. Гэта людзі, якія вераць, што грамада павінна быць абмежаваная ў сваім дыктаце асобным людзям, і што ўдзел у групах павінен быць дабраахвотным. Там дзе левакі хочуць цэнтралізацыі, там людзі правых поглядаў дамагаюцца дэцэнтралізацыі.

Такі падзел поглядаў лёгкі і зразумелы. Але гэтыя паняцьці становяцца заблытанымі і незразумелымі, калі ўмешваюцца аплочаныя глябалістамі разумнікі і іхныя мэдыі і пачынаюць муціць ваду. Напрыклад, няправільна тлумачаць ці падмяняюць кансэрватыўныя прынцыпы, асабліва ў Эўропе, дзе слова "кансэрватыўны" мае сёньня нэгатыўны сэнс і рэдка выкарыстоўваецца. Альбо калі асобы, што ня маюць ляяльнасьці да кансэрватыўных каштоўнасьцяў, пачынаюць рэпрэзэнтаваць іх, уводзячы грамадзтва ў зман.

Непазьбежна гэтыя платныя агенты глябалістаў схіляюць кансэрватараў падтрымоўваць левыя ідэі, такія як умяшаньне дзяржавы ў жыцьцё сваіх грамадзянаў, іншых краінаў і нават свабоднага рынку. Ідэі кансэрватызму і цэнтралізацыі ўзаемавыключаючыя – калі кансэрватар падтрымлівае дзяржаўны кантроль, то ён ужо не кансэрватар. На левым баку палітычнага спэктару платныя агенты глябалістаў накіроўваюць левакоў да краху, але зусім іншым чынам. Калі глябалісты схіляюць кансэрватараў наблізіцца да сацыялістаў, то сацыялістаў яны заахвочваюць быць яшчэ больш радыкальнымі ў сваіх калектывісцкіх схільнасьцях.

Канчатковая мэта глябалістаў дасягнуць такога моманту, калі кожны ў сьвеце падтрымае таталітарную цэнтралізацыю і стане леваком нават неўсьведамляючы таго. Піхаючы левакоў у экстрым, яны спадзяюцца, што і кансэрватары ў сваіх поглядах ссунуцца ўлева. Каб пазьбегнуць такога выніку, кансэрватарам трэба добра разумець матывацыю і супярэчнасьці культу левакоў. Каб самым не ашалець, трэба дасканала вывучыць паводзіны вар'ятаў.

Цяжка дакладна сказаць, калі левыя пачалі адыходзіць ад цэнтрысцкай палітыкі да чыстага камунізму. Хучэй за ўсё, гэты рух пачаўся гадоў 20 таму, калі каледжы цалкам пераключыліся з навучаньня практычным здольнасьцям да тэарэтычных сацыяльных навук. Каледжы сталі цэнтрамі новай рэлігіі "сацыяльнай справедлівасьці". Гэтая рэлігія асноўваецца на распальваньні старых сацыяльных канфліктаў і праблемаў, як быццам бы іх ніколі раней не абмяркоўвалі і не вырашалі. Ваяры сацыяльнай справедлівасьці (ВСС) дзейнічаюць так, быццам Амэрыка ніколі ня выказала свае адносіны да рабства, расізму, правоў жанчынаў, сэксуальнай арыентацыі і г. д. Быццам усе гэтыя праблемы віравалі ў падпольлі толькі і чакаючы, калі ВСС нарэшце зьявяцца і вырашаць іх. А рэальнасьць такая, што пэўны канфлікт вакол гэтых пытаньняў будзе існаваць заўсёды, але сёньня няма ніякай неабходнасьці для дзеяньняў ВВС. Яны бунтары без ніякіх на тое падставаў, таму гэтыя падставы яны высмоктваюць з пальца.

Многія разумнікі левых дастаткова асьцярожныя, каб публічна атаясамліваць сябе з ВСС, але мантра сацыяльнай справедлівасьці і дэзынфармацыя цалкам пранізалі мову і дыскусіі дэмакратаў. Падпарадкаваныя глябалістам мэдыі напоўнілі інфапрастору фальшывымі гісторыямі і прапагандаю. Заданьне гэтых мэдыяў увесь час падаграваць веру левакоў. Каледжы зрабілі іх фанатыкамі, адданымі прыхільнікамі культу, а мэдыі трымаюць іх на гэтым шляху і падстрахоўваюць, каб тыя ня збочылі. Дык якія ж яшчэ перакананьні вызначаюць гэтую рэлігію акрамя моднага паняцьця "сацыяльная справедлівасьць". Іх можна назваць некалькі.

**Зруйнаваць дашчэнту.** Марксізм вучыць, што існуючую сыстэму немагчыма зьмяніць, яе трэба руйнаваць, выкарыстоўваючы сацыяльныя канфлікты грамадзтва. І калі пыл на руінах асядзе, камуністы прапануюць сваю ўтапічную сыстэму і возьмуць кантроль над грамадзтвам. Калі існуючая сыстэма дапамагае левым быць уплывовымі – яны яе падтрымоўваюць, а калі не – то стараюцца зруйнаваць. З такімі людзьмі, як яны, немагчыма гуляць у шахматы ці шашкі – калі яны пачынаюць прайграваць, то ў шаленстве раскідваюць фігуры і ламаюць дошку.

**Усе нараджаюцца аднолькавымі.** Гэтая заява – біялягічная бязглузьдзіца, але яна набірае папулярнасьць сярод левакоў. Калектывісты вераць, што чалавек нараджаецца на сьвет, як чысты аркуш папеpы, і ягоны характар цалкам фармуецца тым асяродзьдзем, дзе ён жыве. І хоць шматлікія псыхолягі, антраполягі і іншыя навукоўцы самых розных поглядаў ад Карла Юнга да Стывэна Пінкера заявілі адваротнае, левакі працягваюць ідэю чыстага аркуша, або Tabula Rosa, бо яна ёсьць ключавым фактарам лявацкай ідэалёгіі, без яе ўсё разваліцца. Калі кожны нараджаецца асаблівым і ўнікальным, то роўнасьць у грамадзтве становіцца суб'ектыўнаю і непрыдатнаю. Калі характар людзей незаўсёды залежыць ад атачэньня, то няма неабходнасьці кантраляваць кожны аспэкт нашага жыцьця, каб "трымаць нас у бясьпецы". Калі псыхапатамі ня робяцца, а нараджаюцца, то пытаньне ўспаткаванага зла становіцца магчымым, а, згодна левакам, няма кепскіх людзей, а ёсьць кепская сыстэма, якая робіць добрых людзей кепскімі. Калі пол чалавека ўроджаны, то ўсе людзі трапляюць у адну ці другую групу псыхалягічна, а ня толькі па біялягічных прыкметах. І тады левакі ня могуць заяўляць, што пол – гэта сацыяльная канструкцыя, якая мусіць быць дэмантаваная.

**Кожны можа і павінен быць справядлівым.** Кожны, хто жыве ў рэальным сьвеце ведае, што жыцьцё несправядлівае. Некаторыя людзі нараджаюцца зь перавагамі, а некаторыя зь недахопамі. Некаторыя зь іх зьвязаныя з сям'ёю і багацьцем, а некаторыя проста з генэтыкай. Чаго левакі ня ўцямліваюць, мець недахопы незаўсёды кепска. Людзі, якія змагаюцца са сваімі недахопамі і пераадольваюць іх, звычайна разумнейшыя і лепш падрыхтаваныя, чым тыя, хто не прыкладае намаганьняў. Левакі хочуць зьняць усе перашкоды не для аднолькавых магчымасьцяў, а для аднолькавага выніку.

**Інтэлект важнейшы за досьвед.** Калі левакі гавораць пра такія паняцьці, як "расізм", яны, хучэй за ўсё, ніколі зь ім не сустракаліся. Яны чыталі пра яго, чулі на лекцыях і вераць, што ён сапраўды існуе паўсюль, на кожным рагу і пад кожным ложкам. Іхняя рэальнасьць залежыць ад сьляпой веры. Тое ж тычыцца ідэі сацыяльнай няроўнасьці мужчын і жанчын, якая грунтуецца на перакручанай статыстыцы і махлярствах аб

*заканчэньне на бачыне 4*

# "Галгатня пра ЗыШыА"

## With or without

Неяк адна знаёмая музыкантка спыталася ў фэйсбуку пра наяўнасьць вэге-дуды, то бок дуды, мех для якой зроблены не са скуры казы, цяляці ці барсука, а са штучнага замяняльніка. Ну канешне ёсьць. Ня быў бы наш сьвет такім, як ён ёсьць, калі б такога меху не было. Матар'ял называецца горэтэкс, добра трымае ўсярэдзіне паветра, менш рэагуе на акалічнасьці надвор'я, не сьмярдзіць поўсьцю казы. І ў гэтым яе найбольшы недахоп. Рэчы без сваёй фактурнасьці, пахаў, шурпатай непаўторнасьці і натуральнасьці губляюць ня толькі свой шарм, але і сваё ўнікальнае прызначэньне. Быццам бы тое самае і лепш, але ня тое самае і ня лепш, а калі задумацца, то і горш, і нават нашмат горш.




Магчыма, што пазбаўленьне рэчаў іх неад'емных уласьцівасьцяў маглі прыдумаць у Амэрыцы. Прынамсі для мне такія рэчы асацыюцца з ЗыШыА. Кава без кафэіну, цукар без цукру, дыетэтычная (мой Божа!) кока-кола, безалькагольнае піва, безлактознае малако, соевае "мяса", загар бяз сонца, цыгарэты без тытуню, хатнія жывёлы замест дзяцей. А ад гэтага ўсе больш глябальныя заганы, напрыклад, вера ў тое, што чалавек можа ўплываць на клімат (атмасфэра без CO2) і шмат-шмат іншага "без".

Ці можна без? Ну канешне можна. Дуда і зь мехам з прэзэрватыва граць будзе. Толькі пытаньне – навошта...

**Віталь ВОРАНАЎ**

## Агляд культу левакоў і іхняй рэлігіі

***заканчэньне з бачыны 3***

злачынствах, якіх ніколі не было. Такія паводзіны вымагаюць культавай адданасьці гэтым выдумкам. І гэта ня можа быць нармальным ці лягічным, гэта цяжкая мэнтальная хвароба. Калі б яны маглі цьвяроза паглядзець на рэальнае жыцьцё, то хутка перакананіся б у хібнасьці сваіх уяўленьняў.

**Кансэрватары – увасабленьне зла.** Зьвяртае на сябе ўвагу тое, што левакі стварылі сваю ўласную мову, якая розьніцца ад усяго іншага сьвету і рэальнасьці. Тое што яны тлумачаць, як "расізм", "жанчынаненавісьніцтва", "фашызм" не адпавядае тлумачэньням ніякіх слоўнікаў. Яны маюць свой лексікон выдуманых імі словаў і паняцьцяў, які адпавядае іхным паняцьцям і ўяўленьням. Кансэрватары не жывуць у такім лявацкім сьвеце, таму яны, на думку левакоў, герэтыкі і барбары. Іх немагчыма выправіць і трэба зьнішчыць.

**Лявацкія багі.** Захапленьне левакоў атэізмам, выглядае, цалкам не задавальняе ўроджанай цягі чалавека да звышнатуральнага. Лявацкі культ часткова знаходзіць яе задавальненьне ва ўсемагутнай і ўсеабдымнай дзяржаве. Наступным баствам для іх, безумоўна, стала прырода ці "маці-зямля". І гэты бог задавальняе іхнюю неабходнасьць у помсьлівай і ўсемагутнай сіле, якая пакарае тых, хто не падзяляе іх погляды.

Многія левакі адчайна прагнуць свайго роду апакаліпсісу, але на іхных умовах. Глябалісты даюць ім такі ў выглядзе "зьмены клімату", хоць гэта зусім ня факт, а выдумка, фінансуемая арганізацыямі, якія маюць на мэце маніпуляцыю масамі.

Шлях пазьбегнуць гэтага апакаліпсісу, па супадзеньню, ляжыць праз яшчэ большы дзяржаўны кантроль над прагрэсам чалавецтва, зьніжэньню насельніцтва і нават глябальным кіраваньнем кожным аспэктам чалавечага жыцьця. У супрацьлеглым выпадку ўсіх нас чакае пакараньне ў выглядзе глябальнага пацяпленьня. У галовах левакоў, гэта будзе той момант, калі мы ўсе зразумеем, што яны ад пачатку мелі рацыю. І тады мы ўсе дабраахвотна прыпаўзём да іх на каленях, схіляючыся перад магутнасьцю іхняга інтэлекту. Такое мышленьне левакоў робіць іх лёгкімі аб'ектамі для маніпуляцый глябалістаў. І цягам вякоў гэта ўжо неаднаразова станавілася крыніцаю многіх няшчасьцяў на зямлі.

***Я. З.***

### Уплаты ў Згуртаваньне Складкі й ахвяраваньні:

| | |
|---|---|
| Т. Астапенка | 60 |
| Я. Ахрэмчык | 60 |
| У. Бялабоцкі | 60 |
| А. Валейша | 60 |
| В. Валынец | 60 |
| М. Валынец | 60 |
| Я. Вянскевіч | 60 |
| С. Ждановіч | 60 |
| В. Красьнік | 60 |
| К. Ландзюк | 60 |
| І. Петрушэнка | 60 |
| К. Пляўга | 60 |
| Р. Чарняўскі | 60 |
| Я. Бойка | 10 |

**Усім шчыры дзякуй!**

### Наступны сход

**Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня "ПАГОНЯ"**
адбудзецца ў суботу **10-га жніўня 2019 году** ў Доме Маракоў на Мангэтане па адрасу:

***Seafarers and International House***
***123 East 15th Street***
***New York, NY 10003.***

*Даезд цягнікамі падземкі **L, N, Q, R, W, 4, 5, 6** да прыпынка **Union Square**.*

*Будынак Дома Маракоў знаходзіцца адзін блёк на ўсход ад **Union Square** па **15-й вуліцы** на скрыжаваньні з **Irving Place**.*

Заля сходаў на 2-м паверсе.

### Ахвяравалі на выданьне бюлетэня *Весткі й Паведамленьні*:

| | |
|---|---|
| Т. Астапенка | 30 |
| У. Бялабоцкі | 30 |
| А. Валейша | 30 |
| М. Валынец | 30 |
| Я. Вянскевіч | 30 |
| С. Ждановіч | 30 |
| В. Красьнік | 30 |
| К. Ландзюк | 30 |
| І. Петрушэнка | 30 |
| К. Пляўга | 30 |
| Р. Чарняўскі | 30 |

**Шчыры дзякуй!**

***Шаноўныя сябры!*** *Калі ласка, своечасова абнаўляйце падпіску на "Весткі й Паведамленьні". Стан падпіскі глядзіце на канвэрце справа ад прозьвішча.*